Цана асобнага нумару 20 гр.

# НАРОД

Орган Беларускае Сялянскае Партыі.

Выходзе два разы ў месяц.

| Падпіска | |
|---|---|
| Падпіска на год | 4 зал. |
| „ паўгоду | 2 „ |
| „ на 3 месяцы | 1 20 гр. |
| Заграніцу ўдвая даражэй. | |

Адрэс Рэдакцыі й Адміністрацыі
Вільня, Тургельская 22 кв. 3.

ЦАНА АБЕСТАК: Перад тэкстам 20 гр. сярод тэксту 25 гр. і па тэксьце 15 гр. за радок дробнага друку.

№ 3. Вільня, сыбота 15 кастрычніка 1927 г. Год I.

## Свая арганізацыя.

Зьезд Беларускага Сялянскага Саюзу (перайменаванага на Зьезьдзе ў Партыю) 18 верасьня і праца па зьезьдзе паказуюць як нашае сялянства чуткое на сваю арганізацыю і як борзда адклікаецца на яе заклік. Хто быў на Зьезьдзе, той бачыў, зь якім зразуменьням справы і як шчыра працавалі на ім нашыя сялянскія дэлегаты. Відаць было таксама як карысная сялянству свая палітычная арганізацыя, свая партыя. Дзякуючы ёй навет людзі зь вельмі малой асьветай, тыя што толькі скончылі пачаткавую школу за Расеі, у пытаньнях грамадзкіх і палітычна-арганізацыйных разьбіраюцца ляпей за бязьдзейнаю інтэлігенцыю із сярэдняй і навет вышшай асьветай. Але й інтэлігенцыі на Зьезьдзе ставала, інтэлігенцыі з духам і ўменьням арганізацыйным, інтэлігенцыі прадпрыемлівай і адначасна абнятай любасьцяй свайго народу і неразрыўна зьвязанай зь ім. Відаць было, што людзі прыехалыя на Зьезд хочуць і могуць будаваць новае, лепшае жыцьцё. Гэта пацьвярджаецца і працаю па Зьезьдзе на мясцох, аб чым нашая Рэдакцыя і Цэнтральны Комітэт Партыі дастае ад сваіх сяброў частыя весьці.

Не загіне тая справа, што знаходзе такі жывы й гарачы водклік у народзе.

Ня ўдасца запыніць яе ані чужнікам-непрыяцелям, ані паном Ярэмічам, зь іх „Сялянскай Нівай“, што дзеля асабістай карысьці шкодзяць справе роднага народу і фалшыва ўдаюць нас уладзе.

Праўда, праца нашая вельмі цяжкая, бо сялянства беларускае напалохана, абязволена і наагул перажывае вельмі цяжкі час. Але ўсё гэта мы мусім перамагчы і пераможам, бо няма такой сілы, каторая бы магла задзержыць народ, што, прачхнуўшыся, ідзе да свае мэты.

Дык да працы, браты! няхай з вас ніхто ня гуляе! да працы палітычнай, культурнай і гаспадарскай дзеля вызваленьня свайга падупалага, але вялікага Народу!



## Зьезд Беларускага Сялянскага Саюзу (Партыі).

Зьезд Беларускага Сялянскага Саюзу, склікавы ў Вільні Часовым Камітэтам гэтага Саюзу, пачаўся ў 11 (адзінанцаць) гадзінаў дня 18 верасьня сёлета ў залі Крэнгеля (Людвісарская вул. № 4).

На зьезьдзе мелі права ўчасьця дэлегаты ад мясцовых арганізацыяў Саюзу. Дэлегаты пачалі зьбірацца ад паловы дзесятае ($9^1/_2$) гадзіны нараніцы. Усіх дэлегатаў было 53 чал., у гэтай лічбе чатыры прадстаўнікі зь Вільні. Дэлегаты былі, з усіх беларускіх землеў пад Польшчаю, праўда, нераўнамерна, што зусім зразумела пры партыйным зьезьдзе.

У 11 (адзінанцаць) гадз. дня д-р Я. Станкевіч адчыніў Зьезд. Вітаючы дэлегатаў на Зьезд, Я. Станкевіч падчыркнуў, што найважнейшая праца—гэта праца дзеля агульнага дабра, дзеля дабра народу. „Мы працуем—кажа ён—даўно на беларускай ніве і час паказаў, што нашая праца дала вялікія рэзультаты. Не малая ўжо нашая праца і ў Беларускім Сялянскім Саюзе, яна пашыраецца ўдачна й борзда“. Ен жадае дэлегатам згоднай і продуктыўнай працы на Зьезьдзе дзеля дабра Беларускага Сялянства і Беларускага Народу наагул. Буйныя воплескі былі адказам на гэтаю прамову.

Далей была абрана мандатная камісія і прэзыдыум Зьезду. За старшыню Зьезду выстаўлены кандыдаты Ю. Мурашкі, Ігн. Лук'яновіча і д-ра Я. Станкевіча. Па адмове першых двух выбіраецца за старшыню аднагалосна д-р Я. Станкевіч. Сэкрэтаром Зьезду абраны грам. Я. Бэкіш.

Далей зьезд прыймае праграму Зьезду, разасланаю за тыдзень да Зьезду мясцовым арганізацыям Б. С. Саюзу. Праграма Зьезду гэтакая: 1) прынятак асноўных пунктаў праграмы Б. С. Саюзу, 2) справы арганізацыйныя, 3) выбары Комітэту Саюзу і 4) ідучыя справы.

Даўгі рэфэрат у першым пытаньню чытае д-р Я. Станкевіч. Па рэфэраце й дыскусыях Зьезд пастанаўляе выбраць—дзеля дэтальнейшага разгляду пытаньня і апрацаваньня рэзолюцыеў—камісыю. У камісыю апрача рэфэрэнта ўходзяць гэтакія асобы: Я. Лічышынскі, А. Іваноўскі, А. Падгайскі, Нагорскі, Т. Гулецкі й Жабінскі. Тымчасам абвяшчаецца перарыў паседжаньня Зьезду. Па перарыве чытаюцца на пленуме апрацаваныя камісыяй рэзалюцыі і пасьля некаторых паправак рэдакцыйнага характару прыймаюцца.

Вось праграмныя рэзалюцыі:

**Асноўныя пункты праграмы.**

Дзеля таго што летась 24 сакавіка быў прыняты толькі проект праграмы, Зьезд Б. С. Саюзу пастанавіў прыняць гэткія асноўныя пункты праграмы.

Будучы клясавай арганізацыяй Беларускага Сялянства, Б. С. Саюз ці Партыя мае заданьням усестароньняе—гаспадарскае, культурнае й палітычнае—адраджэньне й развой Беларускага сялянства.

**Зямельнае пытаньне.** Дзеля гаспадарскага адраджэньня неабходна зямельная рэформа, пры каторай уся дворная, гаспадарсьцьвеная й іншая зямля павінна быць падзелена дарма паміж малазямельнымі й безьзямельнымі беларускімі сялянамі; кошты правядзеньня рэформы павінна гаспадарства (дзяржава) ўзяць на сябе, бо зруйнаванае вайною і іншымі нягодамі сялянства, не змагло-б бяз дальшай руіны аплаціць коштаў рэформы.

Далей трэба зьвярнуць увагу, каб сялянства навучылася цягнуць із зямлі большы зыск. Гэта-ж станецца пры помачы земляробскай асьветы, дзеля чаго патрэбны ўсе ступені гаспадарскіх школаў і вонкахшкольная земляробская асьвета.

**Прамысл і купля-продаж.** Зыск із зямлі падыймаецца, калі ўзьнікне земляробскі прамысл і арганізаваная продаж земляробскіх прадуктаў. Гэтак сама патрэбна арганізаваная купля сялянамі прадуктаў хвабрычных і тавараў колёніяльных.

Сяляне таксама зацікаўлены развоем рамёслаў і мескага прамыслу.

**Асьвета.** Селянін толькі тады будзе запраўды карыстацца ўсімі правамі свабоднага грамадзяніна, калі будзе арганізаваны й асьвечаны. Арганізаванасьць дасьць свая клясавая арганізацыя, а дзеля асьветы патрэбная давольная лічба школаў. І пасьля зямельнае рэформы, вялікая лічба сялянства ня будзе магчы вучыць свае дзеці ў сярэдніх і вышшых школах. Але сялянства вялікай сваёй масаю шмат плаце школьнага падатку, дык ня толькі трэба, але й справядліва, каб пры сярэдніх і вышшых школах былі ўстаноўлены стыпэндыі для сялянскіх дзяцей. З другога боку, сярэдняй і вышшай асьвеце бяднейшых сялянскіх дзяцей мае памагаць клясавая арганізацыя сялянства. Уся асьвета павінна быць у роднай беларускай мове.

**Пытаньне палітычнае.** Найшырэй усе чыста магчымасьці гаспадарскага й душэўнага развою рашчыняцца перад Беларускім Сялянствам і Беларускім Народам наагул адно тады, калі жадны чужнік ня будзе абмежаваць нашыя правы і нашае працы. Дзеля гэтага дзяржаўным (гаспадарсьцьвеным) ідэалам Беларускага Сялянства ёсьць Незалежная Злучаная Беларусь.

**Адносіны да іншых партыеў.** Адносіны паміж сялом, а тым самым і сялянствам, і местам такія, як паміж прадаўцом і купцом і наадварот. Затое адносіны паміж сялянствам, з аднаго боку, і панствам ды буржуазыяй, з другога, яўна варожыя. Паміж сялянамі й работнікамі ёсьць клясавыя розьніцы, але нямаш супярэчнасьцеў, нямаш крыўдаў і гэтыя дзьве пакрыўджаныя клясы павінны заўсёды знайсьці супольнаю мову і суцэльны фронт проці сваіх крыўдзіцелеў.

**Хто можа належыць да Беларускае Сялянскае Партыі.** Да Б. С. Партыі могуць належыць усі земляробы-Беларусы, працуючыя беопасярэдне на зямлі, бяз розьніцы калішняй становай належнасьці. Апрача таго, да Б. С. Партыі можа й павінна належыць сялянская інтэлігенцыя і інтэлігенцыя працуючая каля земляробства (аграномы, лясьнічыя і да г. п.), работнікі занятыя ў земляробскім прамысьле а таксама працуючыя беопасярэдне для земляробаў (вясковыя кавалі, краўцы і да г. пад.); напаоьледак усе тыя, што згаджаюцца з пабудовай соцыяльнага й палітычнага ладу паводле праграмы Б. С. Партыі.

Б. С. Партыя заяўляе, што да ўжыцьцяўленьня гэтых імкненьнеў будзе ісьці дарогаю легальнае працы ў межах прадугледжаных Канстытуцыяй Польскай Рэспублікі і мірнымі трактатамі.

Апрача таго, аб цяперашніх неадкладных патрэбах і дамаганьнях беларускага насяленьня ў Заходняй Беларусі Зьезд Беларускага Сялянскага Саюзу (Партыі) прыняў гэткаю пастанову:

Зьезд Б. С. Саюзу (Партыі) дамагаецца: 1) зьмяншэньня падаткаў, накладаных на сялянства, асабліва дробнае; 2) даньня магчымасьці самаўрадам самастойна працаваць, роля ўлады павінна быць зьведзена да контролю; 3) Зьезд дамагаецца ўтварэньня з памогай Гаспадарства Беларускага Зямельнага Банку і зацьверджаньня Беларускага Саюзу Коопэратываў з рэвізыйным правам. Зьезд Б. С. Саюзу (Партыі) прыпамінае, што Беларускае Сялянства чакае скасаваньня асадніцтва.

**Выбары Комітэту й Рады.**

Другое пытаньне—арганізацыйнае рэфэраваў Ю. Мурашка. Гэтае пытаньне вызвала вельмі жывыя дыскусыі, відаць было, што Зьезд складаецца зь людзёў, каторыя разьбіраюцца ў справах арганізацыйных. Пастаноўлена, што на чале Саюзу павінен быць Цэнтральны Комітэт, складзены з трох сяброў і двох заступнікаў і Цэнтральная Рада Саюзу з 8 сяброў і 2 заступнікаў. На чале павятовых комітэтаў Саюзу маюць стаяць такія-ж павятовыя Комітэты й Рады. Правы сяброў Комітэту й Рады аднолькавыя, а розьніца паміж Комітэтам і Радаю толькі ў дзейнасьці: Комітэт працуе заўсёды, а Рада зьбіраецца на паседжаньні пэрыёдычне. Паседжаньні Рады бываюць супольна з Комітэтам; старшынюе на гэтых паседжаньнях старшыня Саюзу або—у павятовых арганізацыях—старшыня павятовай арганізацыі Саюзу. Цэнтр. Комітэт і Цэнтр. Рада Саюзу складаюць Галоўнае Праўленьне Саюзу.

Патайным галасаваньням (падаваньням картачкаў) Зьезд абраў Цэнтр. Комітэт Саюзу ў гэтакім складзе: Ю. Мурашка (старшыня) 52 галасамі, Я. Станкевіч (сябра) 52 гал. і М. Шавель (сябра) 46 гал. і заступнікамі абраны Я. Бэкіш і Ул. Гічан.

У Цэнтральнаю Раду абраны:

1) Ігн. Лук'яновіч 51 гол., 2) М. Галяс 45 гал., 3) С. Буткевіч 43 гал., 4) В. Язэрскі 41 гол., 5) Я. Федаровіч 41 гол., 6) Я. Лічышынскі 37 гал., 7) М. Пятроўскі 35 гал. і 8) Я. Гіль 32 гал.

Заступнікамі ў Цэнтр. Раду абраны Я. Сухалет 31 гол. і Я. Кавалеўскі 25 гал.

**Справа Ф. Ярэміча, В. Рагулі й А. Більдзюкевіча.**

У сувязі з арганізацыйнымі справамі было закранута пытаньне аб нягоднай дзейнасьці ў саюзе Ф. Ярэміча, В. Рагулі й А. Більдзюкевіча. Проці гэтае тройкі выступіла з прамовамі 5 чал., каторых жыва падзьдзержыў увесь Зьезд.

Мы ня будзем прыводзіць тутака усіх абвінавачаньняў гэтых шкоднікаў, бо аб іхняй шкоднасьці ўжо ня раз пісалася ў „Народзе"; адным з аргумэнтаў проці іх была паскудная пісаніна-лаянка ў „Сялянскай Ніве". Некаторыя дэлегаты заначалі, што на Ярэміча, Рагулю й Більдзюкевіча ня трэба зварочаваць жаднай увагі і траціць дзеля іх час, бо яны ня маюць жаднага ўплыву ў народзе. Зьезд ў гэтай справе аднагалосна вынес гэтакаю рэзалюцыю:

Прыймаючы пад увагу, што Ф. Ярэміч, В. Рагуля й А. Більдзюкевіч, будучы ў Беларускім Сялянскім Саюзе, мелі ў сваёй дзейнасьці вылучна асабістыя мэты і, ідучы да гэных мэтаў, вельмі шкодзілі справе Беларускага Сялянства і Беларускага Сялянскага Саюзу, Зьезд пацьвярджае вылучэньне іх зь Беларускага Сялянскага Саюзу.

**Зьмена назову Партыі.**

Далей Зьезд прызнаючы, што назоў „Саюз" ня зусім адпавядае праграме Б. С. Саюзу, пастанавіў зьмяніць назоў на „Беларуская Сялянская Партыя".

---

Па кароткім перарыве на палудзень паседжаньні Зьезду адбываліся далей.

Па палудні Зьезд зьвярнуў асабліваю ўвагу на справы культурныя й гаспадарскія. Пры гэтым вынесены гэткія рэзалюцыі:

Зьезд Б. С. Партыі дамагаецца скасаваньня языковай уставы з 31. VII. 24, як даючай магчымасьць мноства надужыцьцяў з боку адміністрацыі; беларускія школы павінны адчыняцца не паводле языковых уставаў, неспаўняных школьнай адміністрацыяй, але паводле процэнту беларускага насяленьня.

Зьезд дамагаецца, каб без адкладу сёлета было адчынена 600 (шэсьцьсот) беларускіх урадовых школаў пачатковых, г. зн. ўсюды, дзе былі пададзены на іх дэкляарацыі.

Зьезд дамагаецца даньня правоў публічнасьці беларускім гімназыям у Зах. Беларусі, адчыненьня аднае сярэдняе беларускае ўрадовае школы гаспадарскае і аднае сярэдняе тэхнічнае школы беларускай і ўвядзеньня катэдраў беларускае мовы, літаратуры й гісторыі ў Віленскім унівэрсытэце.

Прыймаючы пад увагу вялікаю патрэбу ў навучоных беларусаведах, Зьезд ліча канечне патрэбным, каб без адкладу былі адчынены вышшыя курсы беларусаведы з унівэрсытэцкай праграмаю гэтых прадметаў.

**Аб вучыцялёх і ўраднікаx.** Зьезд дамагаецца, каб ува ўсіх школах вучыцялі і ў усіх урадах ураднікі ў Зах. Беларусі былі людзі мясцовыя і протэстуе проці насыланьня ў наш край з этнографічнай Польшчы вучыцялёў і ўраднікаў. Займаньне ўрадовых месцаў павінна быць паводле процэнтнай нормы кожнае нацыянальнасьці.

---

Зьезд зварочуе ўвагу на вялікаю патрэбу дзеля арганізацыі земляробскага прамыслу ўтвараньня адумысловых земляробска-прамысловых школаў і курсаў, як, прыкладам, малачарскіх і да г. пад., а таксама школаў і курсаў рамесьніцкіх.

---

Зьезд даручае Комітэту Б. С. Партыі і Радзе паклапаціцца аб арганізацыі профэсыянальнага саюзу беларускіх гаспадароў і дворных парабкоў, залажэньню Беларускага Коопэратыўнага Саюзу і Банку.

Зьезд прайшоў у вельмі бодрым і дружным настроі. Зачыняючы ўвечары Зьезд, старшыня ягоны выказаў надзею, што як на Зьезьдзе, так і, разьехаўшыся дамоў, па ўсім краі, учасьнікі Зьезду і арганізацыі, што іх паслалі, будуць згодна й удачна працаваць на карысьць Беларускага Сялянства і ўсяго Беларускага Народу.

---

## Арышты Ліцьвіноў і зачыненьне літоўскіх школаў.

Сёлета ўночы з 4 на 5 кастрычніка і ў наступныя дні ў Вільні і на провінцыі польская ўлада арыштавала шмат выдатных літоўскіх дзеячоў. У Вільні арыштаваныя: кс. Крыштоф Чыбірас, кс. Пранц. Бяляўскі, кс. Нік. Раштуціс, кс. Пётра Краўяліс, кс. Вінц. Ташкун, Марыя Гірдзюль, Альжбета Лукашэвіч, Аршуля Стэфановіч, Бран. Ляшкевіч, Канст. Алекса, Марыя Жукоўская, Пётра Вайтуляніс і Паўла Каразія.

У Сьвянцянскім пав. арыштаваны: кс. Алякс. Міхайла, кс. Вінц. Бобін і кс. Вінц. Крыкшталяніс. У Віленска-Троцкім пав. арыштаваны: кс. Карвяліс, кс. Ант. Рукас, кс. Амбр. Яковаціс, вуч. Стан. Казлоўскі і вуч. Язэп Казакевіч. У вайводзтве Беластоцкім арыштавана 40 асобаў, паміж ім кс. Дваранoўскі, кс. Шымелюн, Казімер Мелькус, Язэп Вамеліс, Язэп Карэйшыс, Яз. Краўліс, Пётра Валінчус, Ант. Каўс, Дам. Каўс, Юры Сівіцкі, Ян Пейчус, Юры Юркінас, Пётра Удзіль і К. Саковіч.

Апрача таго шмат каго трэсьлі: Яз. Родзевіва, Віт. Кайрукшціса, Яз. Кайрукшціса, Ант. Кратуліса і шмат іншых.

Зачынена літоўская вучыцельская сэмінарыя ў Вільні і 48 прыватных школаў літоўскіх—у павеце Лідзкім (18 школаў), Віленска-Троцкім (25 шк.) і Сьвянцянскім (5 школаў).

Палякі абвясьцілі, што зачыненьне літоўскіх школаў і арышты Ліцьвіноў—польскіх грамадзян—сталіся як адказы на быццам перасьледаваньне ў Літве Палякоў, пры гэтым спачатку Палякі заяўлялі, што арыштаваныя толькі тыя Ліцьвіны, што правініліся проці польскага гаспадарства. Але зараз аказалася, што літоўскія дзеячы арыштаваны бяз віны, а як-бы за тое, што ў Ліцьве быццам уціскаюць Палякоў. Гэтак у № 230 „Kur. Wil." (арт. „Czekamy!") чытаем: „Сядзяць у турмах людзі, каторых дзейнасьць мы заўсёды прызнавалі" і далей тамжа кажацца, што перасьлядуюцца людзі за дзейнасьць каторая не падпадае пад каральны кодэкс і ёсьць загварантавана польскай конституцыяй. І яшчэ далей чытаем, што хоць і знайдзена, што быццам некаторыя Ліцьвіны дзеілі на шкоду Польшчы, але наагул арышты Ліцьвіноў сталіся „ня дзеля дзейнасьці літоўскіх дзеячоў і іхняй палітыкі, але дзеля палітыкі літоўскага ураду ў Коўне".

Дык ці запраўды літоўскі ўрад перасьлядуе ўважаючых сябе за Палякоў, гэта яшчэ ня пэўна, бо мы ведаем, што да польскіх заяваў аб тым, што „Палякоў крыўдзяць" трэба адносіцца вельмі асьцярожне (зьвярнеце ўвагу на няшчырыя крыкі эндэкаў аб крыўдзе польскіх школаў у Зах. Беларусі). Але што Ліцьвіны пад польскай уладаю пакрыўджаны арыштамі і зачыненьнем школаў—гэта зусім пэўна і да гэтага прызналіся самі Палякі.

Нельга згадзіцца і з тым, што арышты і зачыненьне літоўскіх школаў сталіся дзеля таго, што літоўскі ўрад быццам перасьлядуе Палякоў, бо Беларусы нідзе Палякоў ня рыштуюць і польскіх школаў не зачыняюць, а ці да нас лепшыя адносіны? Гэта-ж на тры мiлiёны беларускага насяленьня ў Зах. Беларусі ёсьць не балей 20 (!) беларускіх школаў сумлеўнай вартасьці, бо часта ў іх „вучаць" няўмеючыя пабеларуску „галілеі".

„Палякі" ў Літоўскім Гаспадарстве—гэта спаляčаныя Ліцьвіны або Беларусы; апошнія навет часткава неспаляčаныя, але несьвядомыя. Калі-б літоўская ўлада дала ў сябе магчымасьць культурнага развою Беларусам, дык мела-б шмат меней клопату із сваімі „Палякамі". Прызнаем, што й такім людзём, як літоўскія „Палякі", трэба даць магчымасьць вучыцца й пад. ў мове, у якой яны сабе жадаюць, бо інакш ня было-б магчымасьці сужыцьця.

Але Палякі толькі тады маглі-б справядліва абурацца на ўціскаьне (калі такое ёсьць) Палякоў у Літве, калі-б яны прызналі на дзеле элемэнтарнаю справядлівасьць Беларусам і інш. у сябе. А бяз гэтага ўсё іхняе згоднае (ад соцыялістых да эндэкаў улучна!) абурэньне можа быць толькі зразумела з польска-шовіністычнага гледзішча. Той, хто хоць крыху верыў т. зв. польскім дэмократам, вачом сваім цяпер ня можа паверыць. Шовінізм зраўняў усіх. І дарма Обст злуецца на Бора, з „Kur. Wil.", бо Борава „Вялікая Літва" пры палажэньню, у якім цяпер Заходняя Беларусь, роўна найчыстшай „Польшчы" обстаўскай.

---

Ц. К. Б. С. Партыі выказаў сваё спачуцьцё літ. грамадзянству гэткім лістом 6.X. Час. Літ. Комітэту: „Цэнтр. Ком. Б. С. Партыі выказуе ў васобе Часовага Літоўскага Комітэту сваё шчырае спачуцьцё Літоўскаму Грамадзянству з прычыны нічым неабаснаваных арыштаў літоўскіх дзеячоў і спыненьня асьветнае працы.

Няхай падзеі апошніх дзён загартуюць дух братняга нам Літоўскага Народу ў ягонай барацьбе за свае правы".

**12.X. арыштаваны ў Вільні польскай уладаю грам. Антон Луцкевіч, адзін з найвялікшых павадыроў Беларускага Руху.**

---

# Дзівосы й сьмяхоты.

*Удаюць ды навет фальшыва.* Ярэмічава й Більдзюкевічава „Сялянская Ніва" надрукавала ў № 68, што на Зьезд Беларускай Сялянскай Партыі даў грошы грам. А. Луцкевіч. Як ведама, „Сял. Ніва" звычайна ўдае, што п. А. Луцкевіч быў арганізатарам „Грамады". Мэта ўдаваньня нас „Сял. Нівай" ясная — гэта, каб Бел. Сял. Партыю так перасьлядавалі, як „Грамаду". Ці-ж трэба яшчэ большага доваду, што рэдактары „Сял. Нівы" займаюцца провакацыей (удаваньням), як гэткае пісаньне „Сял. Нівы". А хіба-ж рэдактары робяць гэта не бяз волі выдаўцоў. Калі гэтак могуць пісаць, дык што-ж гэныя людзі кажуць?! Што гэтае ўдаваньне фальшывае, відаць хоць-бы з таго, што яшчэ нядаўна „Сял. Ніва" (№ 49) ўдавала, дый цяпер удае, што мы дастаём грошы ад Палякоў.

Тое самае, што „Сял. Ніва", напісала, ведама з волі кс. Адама Станкевіча, і „Вел Кгупіса" (№ 40) з 30.IX. Тут толькі, каб балей пастрашыць ксяндзоў, дададзена, што быццам А. Луцкевіч—„масон". Ксяндзочку, дзе тваё сумленьне? Баючыся выпусьціць лейцы з рук, каторымі ня ўмееш кіраваць, ты сваім нягодным фальшывым удаваньням шкодзіш справе і губіш сябе.

*Ф. Ярэміч—Обстаў памачнік.*

Ведамы непрыяцель Беларусаў, публіцыст эндэцкага „Dziennika Wileńsk'aга", польскі чарнасоценец Ян Обст на польскае каранаваньне Астрабрамскага Абраза Маткі Боскай выдаў сваю брашуру пад назовам „Historja Cud. Obrazu Matki Boskiej Ostr.". У брашуры гэтай поўна маны і ўсялякіх нягодных нападкаў на Беларусаў і Ліцьвіноў. На жаль, заняты асабістай лаянкай кс. А. Станкевіч не парупіўся выдаць беларускай кніжкі аб Астрабрамскім Абразе М. Б., у каторай-бы праўдзіве была паказана гісторыя Абраза й Вільні, і навет у сваёй газэце не перасьцярог Беларусаў-каталікоў аб шкоднасьці кніжкі Обставай. Мала гэтага, беларуская кнігарня Ярэміча, А. Більдзюкевіча й кс. А. Станкевіча—„Пагоня" (Завальная вул. № 7) ўзяла адразу на продаж і дагэтуль прадае гэнаю Обставу кніжку.

*Ярэміч без Маскалёў або Палякоў не абыйдзецца.*

Пры выбарах у меставаю раду ў Вільні Ярэміч зрабіў блёк з маскоўскімі чарносоценцамі, пры выбарах у раду ў Радашкавічах зблёкаваўся з т. зв. польскімі дэмократамі, а ў вапошнім часе ізноў зблёкаваўся з маскоўскімі чарнасоценцамі ў Городне. Гэтая прыязьнь з маскоўскай чорнай сотняй паказуе, што Палякі, відаць, „Маскалёў" у нас падзьдзержуюць, інакш бы Ярэміч зь імі не блёкаваўся. Калі так, дык ясна, скуль узяліся ў „Маскалёў" грошы на русыфікацыйную пропаганду.

Калі зьвернем увагу, што людзі з маскоўскімі чарнасоценнымі паглядамі ў нас складаюцца з найбалей асталай абмаскаленай беларускай інтэлігенцыі і лічба іх з кожным днём меншае, дык ясна, што блёкаваньне Беларусаў зь імі іх („Маскалёў") толькі падзьдзержуе.

j=й (моj=мой, jix=йіх або іх).

ЯКУБ КОЛАС (К. МІЦКЕВІЧ).

# Новая Зямля.

## ПОЭМА.

І ўсе тужліва замаўкалі,
І думкі кожнага заjмалі
Аб тым, што тут жывеш да часу,
Жывеш сяк-так, пакуль жывецца.
Калі-ж небудзь, а давядзецца
Шукаць сваjго хлябка і квасу.

IV.

### НА ПЕРШАJ ГАСПАДАРЦЫ.

— То як-жа быць?—спытаў Антоні:—
Даваj, брат, думаць хоць сягодня
Ці так ці сяк, каб даць параду
І к аднаму ўжо прыjсьці ладу
Раз назаўсёды, аканчальна.*)
Вядома, служба—рэч гадальна,
А ў гэтым пекле і тым болеj:
Ня пэўна жыць пад панскаj воляj.
Але з чаго пачаць, моj браце,
Бо невялікае багацьце?
І як ты зноjдзеш канцы тыя,
Калі кішэні ў нас пустыя?
— Ну, ты заглядваеш далёка,
Дык трохі хібіць тваё вока—
Вось гэта раз; а падругое—
У нас ужо ёсьць сёе-тое:
Ну, пляц, зямлі на чверць надзела;
Лічы пад тысяча іх сьмела.
А там зямельны банк паможа,
Быка, карозу прадамо...
Чаго палохацца? дармо!
Абы ахвоту меў, нябожа!
А пры жаданьні, пры ахвоце
Сам чорт ня страшан у балоце!—
Сказаў Міхал на словы брата,
Сказаў рашуча і заўзята.
А маці слухае маўкліва,
Аб чымся думае тужліва;
Сказаць штосьць хоча і ўздыхае,
Штось за язык яе трымае,
— Вось як пачнеш так развражаньне,
Агоркне ўсё табе да званьня,—
Нарэсьце маці ня ўтрывала:—
Таго няма, другога мала;
А як жывеш ды не гадаеш,
То j ліха тога не зважаеш...
Так... хоць зямлі свае нямнога,
Але ўсё-ж лепеj, як нічога.
А збудзь яе—пачуеш страту,
Бо дзе паставіш тую хату,
Калі няшчасьце напаткае,
Бо гэта служба ўжо такая?
А там, за сьветам, на чужыне
Ніхто цябе, оj, ня прыхіне!
І як там будзе з тоj зямлёю?
Ня хваціш голаю рукою,—
Ня пэўна ўсё і невядома,
Дык больш пільнуjцеся вы дому!
— Ну, вось кабеціна дзіўная!—
Міхал на жонку нападае:—
Ці-ж мы зямлю сваю збываем?
Мы на рахункі прыкідаем.
Ды што, скажы, ну хоць-бы j пляц?
Падумаць—выставіш палац!
Па часе будзе і развага,
Калі ў лоб стукне табе шляга!
— Вядома, бацькаўшчыны шкода,—
Сказаў Антось у тоне згоды:—
Але-ж і трэба меркавацца
І аднаго чаго трымацца;
І ня чужым, а сваім вокам
Агледзіць трэба ненарокам,
Як мае быць, Заблоньне тое;
А можа выjдзе што якое.
Рабіць тут трэба—адно слова,
Ня то, што—цуп-луп!—і гатова,
Бо гэта справа—ня пустая;
Людзкі-ж язык касьцеj ня мае.
Я так-бы раjіў: выбраць час
І аглядзець усё зараз,
А там сама пакажа справа,
Ці варта шуму ўся аблава,
Бо мо' ваўкі ўсе пасхадзілі.—
На том яны і парашылі.

Я тут спыню апавяданьне,
Каб значны крок ступіць назад:
Зрабіць уважлівы агляд
Прычын імкненьня, парываньня
На новым грунце сесьці стала
І чым жыла душа Міхала.
А поруч з гэтым мімаходам
Жыцьцё мінулае крануць
І ў цёмны кут яго зірнуць,
Дзе пад халодным яго лёдам
На зло ліхім яго прыгодам
Крыніцы сьвежыя цякуць.

Міхал... вы лепш спытаjце самі
Пра палясоўшчыка Міхала:
Яго ўся воласьць наша знала,
Ен быў вядомы між панамі!
Ды што паны?! сам князь Антоні,
Я памятую, як сягодня,
Ня раз зь Міхалам меў размову.
І знаў-жа ж службу лясьнікову!
Ен ведаў, як свае пяць палцаў,
Ну, да мала ўсіх Мікалаўцаў.
Патрава здарыцца, пакража,—
Як бачыш, вызнае, дакажа
І доjдзе ўжо да галубочка,
Як-бы па нітцы да клубочка.
Дык і ня дзіва, што Міхала
У нас любілі вельмі мала.
Міхал сам гэта чуў і ведаў,
Ды што ты зробіш? так з прадзедаў
Было-вялося і вядзецца,
І ўсё ўпустую люд таўчэцца;
Ды будзе час паразуменьня—
Таўкне пад самае карэньне...
— І вось што, братцы, дзіўна ў сьвеце,
Вы толькі добра паглядзеце:
Тоj чалавек, што першы, з боку,
Ужо без таго ня ступіць кроку,

*) маск., паблр.—ханчальна.

Каб ня ткнуць палцам на другога,—
Як на заклятага, ліхога,—
Ен тое самае ўчыняе,
За што другога бэсьціць-лае,
Як толькі скуру яго ўзьдзене
Ці чуць кранецца яго кія—
Такім яшчэ ваўком завые
І дзе ён добрасьць толькі дзене?
На што вада, але і тая
Ня ўсёды роўны нораў мае:
Спакојна ў ямах і заторах,
Але капае дол у горах
І страшна пеніцца, бушуе
І грунт каменны там сьвідруе.
А сіла ў тым, на мој пагляд,
Які выконваеш загад.

Міхал, як толькі ажаніўся,
Тады-ж ад бацькі адзьдзяліўся,
Бо стала цесна. З тэй прычыны
Хадзіў на сплаў ён, на віціны,
Разоў за два схадзіў у Прусы—
Куды ня трапяць Беларусы?
Але абрыдла гэта справа
І адвярнуўся ён ад сплаву;
Пајшоў на службу таўкануцца,
Бо дома негдзе разгарнуцца.
Наўперад ён праз час каторы
Быў пры падлоўчым на каморы.
Стары лясьнічы пасваему
Цаніў Міхала, як служаку:
Ганяў усёды небараку,
Як-бы скаціну тую нему.
Ня раз на жалабы Міхала
Лясьнічы так казаў, бывала:
— Што-ж? добры конь і цягне дужа!—
І ня пускаў Міхала з гужа.
Міхал яму рабочых*) ставіў
І сенакосы яго правіў
І догляд меў за панскім статкам.
А службу нёс свајім парадкам,
Бо што ты зробіш тут? стараўся.
Ў другое месца перабраўся—
Яму уважыў пан лясьнічы.
І сеў Міхал у страшнај дзічы,
Дзе лес адзін, хмызьняк ды поле.
Ды ветру посьвісты на воле**).
Было зямелькі там валока,
Дзе можна-б моцна і глыбока
Пусьціць карэньне ў грунт, абжыцца —
Было над чым разварушыцца.
Але бязгнојная, пустая
Зямлі валока была тая,
Дзе рос сівец ды пырнік густа
І дзе спакојна каля куста
Ляжаў шарак, бо там ніколі
Саха зямлі не баразьніла[21]).
Было маркотна і няміла
У тым пустым, зьдзічэлым[22]) полі.
Міхал наехаў бяз нічога.
І вось жыві тут, разжывајся,
Хоць сам у соху запрагајся
Ды бяры жонку на падмогу
З трыма малымі хлапчукамі.
Але стаў цьвёрдымі нагамі
Міхал на гэты грунт няплодны.

*) маск., паблр.—работнікаў. **) маск., паблр.—на волі.

— Ня плач: ня будзем тут галодны;
Бог дасьць, сяго-таго прыдбаем,
Дабра якога дачакаем,—
Так разважаў ён сваю жонку:—
Жывым ня кінесься ў палонку!
Зямлі —зірні—як ськінуць вокам.—
За гаспадарку ненарокам
Міхал на новым месцы ўзяўся;
Каня, кароўку расстараўся,
Завёў сьвінеј, дзьве-тры авечкі.
Тымчасам з дому для падмогі,
Саху забраўшы і нарогі,
Антось прыехаў і на грэчку
Узьняў маргоў за два папару.
І ажывіліся амшары,
Запахла сьвежаю ральлёю,
Як-бы сам Бог тут над зямлёю
Прајшоў і глянуў міласьціва.
Антось заложна і цярпліва
Ўкладаў у зямлю свае сілы.
На Божы сьвет, як-бы з магілы,
З зямлі травінкај далікатнај
Густою шчотачкаю здатна
Ўсхадзілі дробныя зярняткі.
Як у калысачцы дзіцятка,
Калі ўжо трошкі акрыяе,
Сваю галоўку падымае
І навакол глядзіць зьдзіўлёна,—
Так гэта збожајка зялёна
Да сонца јмкнулася лісткамі,
Бы к матцы дзіцятка рукамі.
Тымчасам хлопцы падрасталі,
Старэјшым дома памагалі.
Прајшоў гадок, мінуў другі,
У касьбу запахлі мурагі.
На полі ветла, самавіта
У рад стаялі копкі жыта,
Так прыбіраючы[23]) загоны.
А на гародзе мак чырвоны,
Раскрыўшы гожыя лісточкі,
Зь іх ткаў прыўдалыя вяночкі
Вакол галоўкі маладзенькај,
Такој прыгожај, зяляненькај.
І часта ў добраю пагоду
Ідзе Міхал дамоў з абходу
І хоць чуваць, што баляць ногі,
Але зварочуе з дарогі
І робіць круг, бо як стрымацца,
Каб не зајсьці палюбавацца
І ярыною і жытамі?
Ідзе, а ветрык з каласкамі
Вядзе прыемнаю размову
І цешыць душу лясьнікову.
Міхал падыідзе і прыстане,
Усю лаву жыцејка агляне
Ды возьме ў палцы асьцярожна
Яшчэ нясьпелы і парожны
Ен колас жытні і паглядзіць,
Рукою лёганька пагладзіць,
Нібы сынка свајго малога,
І ў сэрцы дзякаваў ён Богу[24]).
У тым кутку, глухім і дзікім,
Стараньням дзядзькавым вялікім
І цяжкај працај земляроба[25])
Набыта розная надоба;
Ўсё зацьвіло, загаманіла,
Бы жыватворчая тут сіла

Ад сну прыроду абудзіла.
Гумно паўнела з кожным годам,
І багацеў хлявец прыплодам,
І грош стаў лішні завадзіцца,
Было што есьці, чым акрыцца,
І быў парадак, лад у хаце.
Ўжо з тым кутком зжылася маці,
Даўно прывыкшы к адзіноце;
А цэлы рад збаноў на плоце
Казаў аб тым, што гаспадыня
Была ў сваёй у каляіне
І што яе, таксама, справа
Вялася добра і рухава,
Бо тут збаны ня так стаялі:
Яны за тое ўжо казалі,
Што малака было даволі.
У пастаўніку, пры самым полі,
Сьвіньня, як хворая, стагнала,
Хоць гэтај хворасьці ня знала.
Яе такая ўжо натура:
Стагнаць і лыч трымаць панура,
Як-бы ёј цяжка жыць на сьвеце.
А парасяткі, яе дзеці,
Усяму дзівілісь нескančона,
Бо надта рохкалі зьдзіўлёна.
Другі гурток другој жывёлы,
Дзесятак кур, пявун вясёлы
Каля платоў чарвеј шукалі;
Квактуха голасна квактала,
А кураняткі чарадою
Паслушна ўсёды јшлі за ёю.
Тут кожна рэч аб тым казала,
Што маладая гаспадарка
Ішла ўпярод пасьпешна, шпарка
І большы круг яна займала.

Часамі хмурнаю вясною
Цяплом павее, цішынёю,
І хмарак сівыя фальбоны
Падуць, апусьцяцца наніз,
І неба яснага абрыс
Зірне скрозь цяжкія заслоны,
І дзень тужлівы, засмучоны
Аздобіць *) сонцаў агняпіс,
І ўсё вакол павесялее,
На момант сьцішыцца замлее,
На ўсё адбітак ляжа згоды,
І нікнуць подыхі нягоды;
Зямельцы неба усьміхнецца.
Глядзіш—тады табе здаецца,
Што холад згінуў назаўсёды.

Але ці-ж так? Эх, негадана
Вятруга ўсходзіцца паганы,
І даль палёў маркотна стане,
Жалобы цень яна апране,
І ўсё нејк смутна пазірае,
Чагось нядобрага чакае.
Так і ў жыцьці: бягуць часіны,
Ліхія, добрыя хвіліны,
Адна зьмяняецца другою.
Ня ўсьпеў Міхал з сваёј сям'ёю,
І пяць гадкоў спазнаць спакою,
Як сталі чуткі пачувацца—
Лясьнічы сам даваў намёкі—
Праз час ня вельмі так далёкі
Ў другі куток перабірацца.

*) пол., пабелр.—прыбяръ.

І гэта вестка ўсіх смуціла,
Рабіць ахвоту ўсю адбіла:
Рабі, працуј, кладзі ты сілы
У гэты дол чужы, пастылы
І горкім потам аблівајся,
Зрабіў парадак—выбірајся
Ды јзноў јідзі адсюль у госьці..
Эх, вы, паны! эх, ягамосьці!..

## V.

## ПЯРЭБАРЫ.

Вясны чакаў Міхал зь сям'ёю,
Чакаў з трывогаю: вясною
У лясьніцтве јшлаператасоўка
Служачых ніжшых, пераходы—
Тут так вялося з году ў годы,—
І як ні думае галоўка,
Нічога выдумаць ня можа;
Ніяка просьба не паможа,
Калі на чым лясьнічы ўпрэцца.
—А можа дасьць Бог ператрэцца,
І тут гадок ці два пабудзем,—
Сабе ня верачы і людзям
Міхал так думаў, сумляваўся [26])
І тут астацца спадзяваўся.

Ды раз у сэсыю Міхася
К сабе лясьнічы заклікае.
„Ну, гэта нешта азначае",
У Міхала думка праняслася.
І ў канцэлярыю ўваходзіць,
Вачоў [27]) зь лясьнічага ня зводзіць,
Чагось-та важнага чакае.
—Ага, ты тут! Ну, чалавеча,
Зьбірај манаткі і ў Парэчча
За добры час перабірајся!
Перад Вялікаднем старајся
Туды, на месца перабрацца.
Жыві там, нечага баяцца.

—Панок, за што?—Міхал пытае:—
Што за прычына ёсьць такая?
Ці я па службе правініўся?
Ці на мяне пан угнявіўся?
Я не прадаў, ня ўкраў нічога...
Скажы, панок, на літасьць Бога,
За што нас пан перамяшчае?—
Лясьнічы срога пазірае.
— Мне чалавек там добры трэба,
А ня гультај які, нязгрэба;
Такі лясьнік, як ты, каторы
Ня будзе спаць п'яны ў разоры...
Парэчча—месца не благое
І поле там ня так пустое,
Хоць менш яго, затое-ж паша!
Дык будзе хлеб табе і каша.
Пакуль я жыў, і ты ня зьгінеш,
Свае сям'і, нябось, ня кінеш—
Куды ты дзенесься? трымајся,
Жыві і з Богам разжывајся.—

Пашоў Міхал наш у задуме,
А па дарозе к цётцы Хруме
Ен трапіў з гора выпіць чарку,
Каб галаве яго на карку
Было лягчэј крыху трымацца.
— І што за страх перабірацца?—
Міхал дарогај разважае:—
Мяне лясьнічы паважае!..

А месца, праўда, ня ліхое...
І г-э-э-эј ты, наша жыцьцё зло-о-ое!—
Міхась у лесе песьню цягне
І тахты стрэльбај выбівае,
Назад, наперад выкідае,
Зајсьці скарэј да дому прагне
Навінај важнај падзяліцца.
Јідзе ён сьмела, не бајіцца
Праборкі дома за гарэлку:
Вяліка важнасьць, што кватэрку
Ен з гора тога перакінуў!
І на Міхася жаль нахлынуў
І нејкі смутак навязаўся,
А ўрэсьце ён усердаваўся.
А на каго? за што?—ня знае,
А можа так злосьць напускае,
Каб дома жонка ня крычала,—
Тым болеј, што ўжо выглядала
Яго пасада з-пад узгорка,
І трохі рупіла праборка.
Міхал ујшоў[28]) ня зразу ў хату:
Каля хлява перш затрымаўся
І на сьвіньню так углядаўся,
Як-бы за гэта браў ён плату.
Ад хлявушка ў гумно заходзіць,
З Антосям гутарку заводзіць,
І ўжо адтуль, раўнеј, як можна,
Јідзе да хаты асьцярожна.
Але як бацька ні стараўся,
А ўсё-ж ён лёганька хістаўся.
Антось даўно зацеміў[29]) гэта:
«Плыве, як панская карэта!»
І чуць ад сьмеху не качаўся.
А каб прымусіць і паверыць,
Што ён гарэлкі і ня нюхаў,
Ў садок зајшоў і пчол паслухаў,
А ў сенях стаў сабаку перыць,
Што ўночы кепска дом пільнуе,
Што мала брэша, кепска чуе,
Зајцоў ня гоніць і ня ловіць,
А толькі знае і наровіць,
Каб як у хату зачасацца.
—А, ліха матары і батцы!
А, дурань, воўча тваё мяса!
На двор брахаць, стары дурніца!
Гаршчэчнік, чортава ты пыца!—
І на сабаку пакрычаўшы,
Тады ўжо стрэльбу з плеч зьнімае
І на сьцяну яе чапляе,
У хату ўходзіць, торбу зьняўшы,
Садзіцца там, гаворыць мала,
Каб жонка зразу не пазнала,
Бо толькі скажа адно слова—
Прапала хітрасьць і гатова!
—І дзе ты гэтак налупіўся,
Каб ты смалы ўжо быў напіўся?
Ото натура!—жонка лае,
А ён сьмяецца, не шманае.
—Няма табе граху, ні посту,
Хоць у палонку кідај з мосту!
—А ў пост, скажы, сварыцца можна,
Калі ты гэтака набожна?—
Міхал у жонкі папытаўся:—
Або я п'яны ці валяўся?..

Вось ня крычы ты і ня лајся,
Лепш у дарогу выбірајся!
—Куды ў дарогу? Што пляцеш ты?
Прапіў свој розум, ці што ўрэшты?—
З трывогај жонка ўжо пытае
І тон сярдзіты свој мяняе,
Бо ёј у голасе Міхася
Адразу праўда пачулася;
І дзеці бліжај селі к тату
Якраз ујшоў[30]) і дзядзька ў хату.
—Дык так, Антось: пераяжджаем,
Апошні час тут дажываем.
—Куды?—Ў Парэчајка, ў балота!..
—Бадај ты спрахла! вось,[31]) брыдота!
Цягніся јзноў, а глуш такая!—
Антось Парэчча праклінае.
Ўздыхнула цяжка-цяжка маці,
І зразу стала смутна ў хаце,
Як бы з усіх куткоў і шчылін,
З усіх чуць-чуць заметных зьвілін
Сюды бяда папапаўзала
І гэтак прыкра пазірала
На ўсіх, ад мала да вялка,
Бязжаласна і безьязыка, і
Зрабіўшы ў момант замяшаньне,
І змоўклі ў хаце ўсе дазваньня.
Зьнячэўку маці аж прысела—
Так пераборка ўжо дадзела!
Апроч таго, тут абжыліся,
На ногі трохі падняліся;
Яшчэ-б гадочак пажыць ціха,
Але најгоршае тут ліха—
Зьбірај зноў цапстрыкі, трасіся
Па каранёх з дабром, зь сям'ёю
У саму бэздараж вясною.
— Дзе наша, брат, ні прападае!
Міхал гаворку зачынае:—
Ці-ж толькі сьвету, што ў ваконцы?
Або так міла тут бясконца?
І там мы будзем жыць так сама;
Няма ўжо горшај, як тут яма.
А сенакос тут дзе? за сьветам!
А там блізютка, каля дома—
Парэчча добра мне знаёма!
А колькі зелені там летам!
Як у вяночку, стајіць хата.
Грыбоў і ягад—страх багата!..
Там выгад болеј, чалавеча!..
— Паедзем, татачка, ў Парэчча!
Вось там грыбоў папазьбіраю!
Ој, јіх зьбіраць ахвоту маю!—
Схапіўся Костуська і скача,
А маці з гора чуць ня плача.
— Згараць яны няхај з грыбамі!
Але ці будзе хлеб, часамі?—
Антось пытае ўжо сярдзіта:—
А колькі там пасеем жыта?
Зямлі, як бабе старој сесьці.
Папробуј сядзь на гэтым месьце...
— А дзе ты дзенесься? і сядзеш!
Нічога, браце, не парадзіш.
— Яму, як выпіў, гора мала!—
На бацьку маці јзноў напала.

(Далеј будзе).

Выдае: Беларуская Сялянская Партыя. Рэдактар: Б. Станкевіч.

Друкарня С. Бэкера, Вільня, Субач 2.